# ВАСІЛЬ ВАШЧАНКА—МАГІЛЕЎСКІ ГРАВЁР канца XVII—пач. XVIII сталецьця.

Член Супрацоўнік І. Б. К. выкладчык Б. Д. У. М. Шчэкаціхін.

З вялікага множства анонімных гравюр, якімі багата аздоблены прыгожыя выданьні старога беларускага друку XVII—XVIII вякоў, рэзка выдзяляюцца нямногія, але добра надуманыя і ня менш добра рэзаныя дрэварыты з подпісам магілеўскага гравёра Васіля Вашчанкі. Гэты цікавы і здольны майстар працаваў, як відаць, выключна ў Магілеве, ў межах 1698—1730 гадоў, зьмяшчаючы свае вытворы ў выданьнях свайго вядомага родзіча, друкара Максіма Вашчанкі, а гэтаксама і ў некаторых кнігах, якія выходзілі з магілеўскай „Брацкай“ друкарні. Пэўная яскравасьць рысунку, выразнасьць тэхнікі, некаторыя самаўласьцівыя прыёмы самай гравёрнае манеры—ўсё гэта ўдала адрозьнівае яго дрэварыты ад шмат якіх іншых узораў беларускай гравюры, робіць з іх нейкае выключнае і надзвычайна каштоўнае зьявішча ў нашым гравюрным мастацтве.

У спэцыяльных гістарычна-мастацкіх працах аб творах Вашчанкі можна знайсьці нешматлікія ўпаміны; але ўсе яны надта кароткія і павярхоўныя. У першы раз некаторыя яго вытворы былі пералічаны вядомым Равінскім у рукапіснай працы „Русские граверы и их произведения с 1564 года до основания Академии Художеств“, якая была ім прадстаўлена на прэмію Уварава ў 1864 годзе. Але ў гэтай працы Равінскі яшчэ не адрозьніваў Васіля Вашчанку ад іншых гравёраў, якія маюць то жа самае прозьвішча,—часткова—ад вышэйпамянёнага намі Максіма, які быў, як вядома, ня толькі выдаўцай-друкаром і ўласьнікам магілеўскай друкарні, але таксама і вельмі здольным, хоць і ня надта самастойным гравёрам па медзі.

Гэту абмылку заўважыў Стасаў у сваім „Разглядзе“ працы Равінскага [1]), пры чым адзначыў, што з ліку гравёраў з прозьвішчам „Вашчанка“, што працавалі ў Магілеве, трэба адрозьніваць трох паасобных майстроў: Максіма, Апанаса і Васіля, з якіх апошні зьяўляецца, па яго думцы, найлепшым [2]). Дапаўняючы складзены Равінскім спіс яго твораў, Стасаў дадаў да яго некаторыя ўвагі. Ён адзначыў, што: а) „Вадохрышча“, надрукаванае ў „Діоптры“ 1698 г., было перадрукавана потым у іншых магілеўскіх выданьнях, а ўласна: на адвароце загалоўных аркушаў „Неба Новаго“ 1699 г. і „Перла многоцѣннаго“ 1699 г., а гэтаксама у „Житии Святыхъ“ 1709 г. [3]); што b) апрача „вадохрышча“ ў „Діоптры“ знаходзіцца яшчэ застаўка з Ісусам у крузе, якая відавочна награвіравана Вашчанкам; што с) у магілеўскім „Акафісьце“

---

[1]) Отчет о седьмом присуждении наград графа Уварова. СПБ. 1864. Разбор рукописного сочинения Г. Ровинского: „Русские граверы и их произведения с 1564 года до основания Академии Художеств“, составленный В. В. Стасовым.

[2]) Стасов, op. cit., стар. 48.

[3]) Год паказаны памылкова, замест 1702.

1698 г., апрача дрэннай гравюры Апанаса Вашчанкі (хрыстос на троне), ёсьць яшчэ некалькі іншых аркушаў, рэзаных напэўна Васілём Вашчанкам; і ўрэшце, што d) найлепшым вытворам Васіля Вашчанкі зьяўляецца загалоўны аркуш да „Житія Святыхъ“ [1]).

Некаторыя з вызначаных намі дадаткаў Стасава былі прыняты пад увагу Равінскім пры выданьні вышэйпамянёнага рукапісу ў 1870 годзе [2]). Усе гравюры з прозьвішчам „Вашчанка“ былі падзелены на тры групы. Сьпіс вытвораў Васіля Вашчанкі набыў пры гэтым наступны зьмест: 1) Загалоўны аркуш „Діоптры“ 1698 г.; 2) „Вадохрышча“—там жа; 3) Ісус з крыжам—там жа; 4) Шэраг малюнкаў у „Акафістах“—Магілеў, 1698 (апрача гравюры „хрыстос на троне“ на адвароце арк. 18, што адзначана два разы—як праца Апанаса Вашчанкі, і як вытвор невядомага майстра „Апанаса П.“); 5) Загалоўны аркуш „Неба Новаго“ 1699 г.; 6) Загалоўны аркуш „Перла Многоцѣннаго“ 1699 г.; 7) Загалоўны аркуш „Житія Святыхъ“ 1702 г. [3]).

Той жа сьпіс у некалькі скарочаным відзе быў паўтораны Равінскім у яго „Словаре русских граверов“, пры чым засталіся чамусьці непамянёнымі ўсе паасобныя гравюры з „Діоптры“ і „Акафістаў“ 1698 г. У сьпіс увайшлі толькі загалоўныя аркушы, але да іх быў яшчэ далучаны „Ян Дамаскін“ з „Осьмогласьніка“ 1730 г. [4]).

Нельга, аднак, сказаць, каб усе гэтыя сьпісы адзначаліся асабліваю паўнатой і дакладнасьцю. Нават з ліку падпісных гравюр Васіля Вашчанкі адна, а ўласна—„нараджэньне“ з „Осьмогласьніка“ 1730 г.—засталася ў іх зусім непамянёнай, хаця з таго жа самага „Осьмогласьніка“ Равінскі адзначыў „Яна Дамаскіна“, і значыцца ў свой час трымаў яго ў руках, так што адсутнасьць „нараджэньня“ ў яго сьпісах павінна быць вытлумачана нейкай нядбаласьцю. Далей, апрача „нараджэньня“ існуе яшчэ адзін, зроблены Васілём Вашчанкам, падпісны антымінс, які, праўда, Равінскаму напэўна быў невядомы. Нарэшце, з ліку непадпісных гравюр на падставе тэхнічных адзнак і стылістычных асаблівасьцей можна ўсё-ж з прыблізнаю верагоднасьцю прыпісваць Васілю Вашчанку некалькі большы лік вытвораў, чымсі гэта было зроблена Стасавым і ўсьлед за ім паўторана Равінскім. Апрача гравюр з „Акафістаў“ і „Діоптры“, трэба, напр., адзначыць застаўку з „Неба Новаго“ 1699 г., а гэтаксама дзьве паасобныя гравюры—„укрыжаваньне Ісуса“ і „Ісус з мячом“,—якія знаходзяцца ў некалькі раз ужо памянёным намі „Осьмогласьніке“ 1730 г. У адносінах да гравюр „Акафістаў“ 1698 г. можна не абмяжоўвацца няяснымі паказаньнямі на „некалькі іншых аркушаў“ (Стасаў), або „шэраг малюнкаў“ (Равінскі), але спыніцца на некаторых зусім азначаных гравюрах, якіх апрача загалоўнага аркушу і паўторанага з „Діоптры“ „вадохрышча“ можна налічыць восем: 1) „благавешчаньне“, 2) „васкрасеньне“, 3) „Ян хрэсьціцель“, 4) „усьпеньне“, 5) „тройца з анёламі і праведнікамі“, 6) „страшны суд“, 7) Ісус з дзяржаваю“ і 8) „тайная вячэра“.

Агульная колькасьць вядомых нам вытвораў Васіля Вашчанкі павінна быць, гэтакім чынам, выражана праз лік 22. З гэтага ліку неабходна выдзеліць дзьве паасобныя групы. Да першае з іх належаць падпісныя г. зн. бясспрэчна аўтэнтычныя яго гравюры, якіх мы можам налічыць 7. Другая група складаецца з 15 гравюр, якія ня маюць ніякага

---

[1]) Стасов, op. cit., стар. 48—49.

[2]) Д. А. Ровинский. Русские граверы и их произведения с 1564 г. до основания Академии Художеств. М. 1870.

[3]) Ровинский, op. cit., стар. 168—169.

[4]) Д. А. Ровинский. Подробный словарь русских граверов XVI—XIX в. СПБ. 1895. I, 179.

подпісу, але больш менш блізкі па тэхнічных і стылістычных адзнаках да характэрнай манеры магілеўскага майстра. Гэтыя апошнія з тым большай пэўнасьцю могуць быць намі аднесены да вытвораў Васіля Вашчанкі, што ўсе яны знаходзяцца ў тых жа самых выданьнях, дзе зьмешчаны гэтаксама і некаторыя бясспрэчна аўтэнтычныя, г.-зн. падпісныя гравюры першае групы.

---

Па зьместу свайму першая група складаецца з наступных гравюр:

1. *„Загалоўны аркуш „Діоптры“ 1698 г.* [1]) Разьмер 123×160 m/m. Подпіс: „Василі Вощанка“ Паўтораны ў „Осьмогласьніках“ 1730 г. [2]) і 1754 г. У асяродку. у арачным пралёце загаловак: „Діоптра или зерцало живота во мирѣ семъ человѣческаго. Прежде вмонас: Кутеинском Ннѣже во Бгоспасаемым Градѣ Могилевѣ. В друкар Максім Вощанки Типом издадеся. Влѣто от Ржства Хва 1698:“ Па бакох загалоўку ў зрэзаных овальных мэдальёнах налева багародзіца, направа Ян, абедзьве фігуры ва ўвесь рост. Згары ў овальным мэдальёне паясны вобраз хрыста; здолу ў гэтакім жа мэдальёне трыкутнік у праменях з надпісам: „Единому Бгу слава“. Па кутох у круглых мэдальёнах паясныя вобразы эвангэлістаў з сымболічнымі жывёламі.—У тэхніцы зьвяртае на сябе ўвагу вялікая ўпэўненасьць контураў, разам з чыстатою штрыхоўкі. Пры гэтым гравёр ужывае цікавы прыём, які надае фігурам асаблівую плястычнасьць: у ценявых частках пракладзёны вельмі тоўстыя лініі, амаль што чорныя плямы, і простастаўна да іх зроблена тонкая, але густая штрыхоўка, што ўтварае пераходы паўтаноў. У гэтакі спосаб апрацаваны, напрыклад, фігуры Яна, і часткова—Мацея. Ва ўсіх вобразах надзвычайна дасканала зроблены валасы, і вельмі дакладна выяўлены рысы твараў.

2. *Загалоўны аркуш „Неба Новаго“ 1699 г.* [3]). Разьмер 115×154 m/m. Подпіс: „Василій В“. Асяродак аркуша займаюць два концэнтрычныя кругі, паміж якіх знаходзяцца зоркі, месяц і сонца з адпаведнымі надпісамі. Унутры асяродкавага кругу зьмешчаны загаловак: „Нбо Новое зновыми звѣздами сотворенное То есть, Преблсвенная Два Мріа Бца з чудами своими, Составленное трудолюбіем Іеромон Іоанікіа Галятовског Ректор: и Ігум: Бра: Кіев: Ннѣже Типом издася в Лѣ: 1699 Въ Могилевѣ в Тип Максим Вощанки“ Навокал кругоў, на заштрыхаваным тонкімі горызонталямі фоне, зьмяшчаюцца клубаватыя воблакі, найбольшае з ліку якіх заходзіць згары на абодва кругі. На ім сядзіць багародзіца ў шырокай адзежы, затканай зоркамі, у кароне з зорак на галаве. З абодвых бакоў да яе падлятаюць анёлы—па два з кожнага боку. Крайнія з іх трымаюць невялічкія дыскі з надпісамі: налева МР, направа ѲУ; другія ўздымаюць над галавамі стужкі з надпісам: „(славь)ся чудесъ |хвыхъ начало“ Надолу гравюры знаходзяцца такія ж самыя стужкі с надпісам: „Видѣхъ Нбо| Ново Апк 21“. Уся гравюра выканана тонкімі лініямі і надзвычайна лёгкай штрыхоўкай, зробленай упэўненым разцом.

3. *Заголоўны аркуш „Перла многоцьннаго“ 1699 г.* [4]) Разьмер 114,5×146,5 m/m. Подпіс: „Василій Вощанка“. Простакутная асродкавая прастора абкружана пышнай расьлiннай рамкай з лісьцяў, кветак і кветкавых падвяночкаў. У падвяночках круглыя мэдальёны з паяснымі

---

1) Расійская Публічная Бібліотэка, V, 9, № 5а.
2) Там жа, VII, 7, № 29а.
3) Рас. Пуб. Біб., V, 9, 10в.
4) Рас. Публ. Бібл., V. 9. № 12а.

вобразамі сьвятых. Унутры рамкі знаходзіцца загаловак: „Сія книга названная перло многоцѣнное. Составлена Кирилом Транквил: Проп: Слова Бжія Типом изо(бра)зися: Въ бгоспасаемым Градѣ Могилевѣ. Въ друкарни Максима Вощанки. Влѣ: от Рож: хва 1699“. Угары над рамкай зьмешчана тройца: голуб у праменях, пад ім фігуры Ісуса і бога айца ў шырокім воблачным вянцы па бакох невялічкага кругу. Тэхніка выкананьня тая ж самая, як і ў папярэдняй гравюры, але штрыхі разьмеркаваны бліжэй адзін да другога, і нават зьліваюцца дзе-не-дзе ў плямы, што надае паасобным формам асабліва выразную плястычнасьць.

4. *Загалоўны аркуш „Книги Житій Святыхъ“ 1702 г.* [1]). Разьмер 158×248 m/m. Подпіс: „Василій Вощанка“. З абодвых бакоў аркуша на нізкіх постамэнтах зьмешчаны дзьве фігуры анёлаў, якія падтрымліваюць дошку з акруглым верхам. На постамэнтах надпісы: налева—„Блажени звані на вечерю брака Агнча: а. г. ѳі“, направа — „Въ памят вѣрную буде праведнику:“. На дошцы знаходзіцца загаловак: „Книга житій стыхъ въ Славу с: Животворящ Троцы Бга хвалимаго въ Стых своих, на Тои Мсцы Первыя, семтемврий, октоврій, и ноемврій. Блсвением в Бгу превелеб: ег млсти Гсдна Оца Серафіона Полховскаго млс Бжіею Правос: Епспа Мстис: Оршан: Могил: въ бгоспасаемым Градѣ Могилевѣ. в друкарни Братства Бгоявленія Гдня. Старанем и коштом Максима Вощанки Исданная Типомъ. Въ лѣты от Рождества Хва 1702 Мсца Ноеврія 12 дня“. Над дошкаю ў праменях зьмешчаны шасьціканцовы крыж з прыладамі пакут Ісуса. Па бакох яго, направа й налева,—грамады праведнікаў і сьвятых, сярод якіх знаходзяцца багародзіца, Пётра і Ян. Над імі ў стужках надпіс: „Праведници просвѣтятся іако слнце“ Яшчэ вышэй—тройца ў аблакох, абкружаная маленькімі крылатымі галоўкамі анёлаў. Паміж Ісусам і богам айцом разьвінута кніга з надпісам: „Радуй|теся іако| имена| ваша|напи санна| сут на| нбсехъ“. Надолу гравюры, паміж бакавых постамэнтаў, зьмешчаны овальны мэдальён з вобразам горада, і надпісам: „Град Могилевъ.—З тэхнічнага боку—адна з найлепшых гравюр Васіля Вашчанкі. У ніжэйшай палове фон заштрыхаваны тонкімі горызонталямі, у верхняй пакінуты чыстым. Усе фігуры апрацаваны з вялікай дакладнасьцю, пры чым тонкасьць паасобных штрыхоў дасягае проста да віртуознасьці. Формы выяўлены яскрава і плястнчна, ня гледзячы на тое, што нідзе не ўжываецца перакрыжная штрыхоўка.

5. *Ян Дамаскін з „Осьмогласьніка“ 1730 г.* Паўтораны ў „Осьмогласьніку“ 1754 г. Разьмер 107×,5—156 mm. Подпіс: „Василій Вощанка“. Гравюра малюе Яна Дамаскіна ў яго працоўным пакоі, каля стала, перад разьвінутай кнігай. На заднім пляне ўлева знаходзіцца колюмна, паліца з кнігамі і жбаном, арачны пралёт, праз які відаць неба і хмары. Направа, над галавою Яна, сьвісае пышная драпіроўка. Стол засланы абрусам з падборам і сымэтрычнымі зборкамі. На стале каламарніца, у руцэ Яна—пяро. Значная і буйная яго фігура монумэнтальна запаўняе ўвесь асяродак гравюры па дыяганалі ад левага сподняга да правага вышняга кута. Найбольш дакладна апрацавана галава,—асабліва валасы й барада. Над галавой знаходзіцца белы німб: у ім надпіс: „с: іоанъ дамаскинъ“.—У параўнаньні з папярэднімі гравюрамі ў тэхніцы выкананьня тутака можна знайсьці нешта новае. У фоне ужываецца перакрыжная штрыхоўка. У ценявых частках роўналежныя штрыхі янбы імкнуцца да злучэньня паміж сабою. У некаторых мясцох яны зьліваюцца ў даволі буйныя чорныя плямы, так што плястычны эфэкт фі-

---

[1]) Рас. Публ. Бібл., VI. 2. № 6а.

ґуры будуецца на контрастах чорнага й белага. Як відаць, гэта адзін з найбольш позных вытвораў Васіля Вашчанкі.

6. *Нараджэньне з „Осьмогласьніка“ 1730 г.* Паўторана ў „Осьмогласніку“ 1754 г. Разьмер 114×153 т/т. Подпіс: „Василій Вощанка рѣз“.

У процілегласьць папярэдняй гравюры, напэўна, можа быць аднесена да ліку ранейшых прац магілеўскага майстра, хоць аркуш і зьмешчаны разам з больш позным „Янам Дамаскіным“ у тым жа самым выданьні. Гэты факт, мажліва, тлумачыцца тым, что ілюстрацыі „Осьмогласьніка“ наагул не былі спэцыяльна для яго падрыхтаваны, і самы падбор гравюр зроблены быў тутака чыста выпадкова,—можа, нават, ужо пасьля сьмерці Вашчанкі. Праўдападобнасьць апошняга дапушчэньня сьцьвярджаецца тым, што апрача дзьвёх новых гравюр (г. зн. „Яна Дамаскіна“ і „нараджэньня“) у „Осьмогласьніке“ зьмешчаны і некаторыя адбіткі са старых дошак Вашчанкі, напр. з „вадохрышча“, надрукаванага ў першы раз у „Діоптры“ і ў „Акафістах“ 1698 г. [1]), і нават загалоўны аркуш паўтораны з „Діоптры“ 1698 г., тады як раней, у 1698—1702 г., загалоўныя аркушы для новых выданьняў звычайна рабіліся Вашчанкам на-нова. Той жа самы факт, паміж іншым, мае месца і ў „Псалтыры“ 1738 г. дзе паўтараецца загалоўны аркуш, узяты з „Акафістау“ 1698 г. [1]). Напэўна, значыцца, у 30-х гадох XVIII сталецьця ў друкарнях ужо ня было новых дошак, рэзаных Васілём Вашчанкам, і яны карысталіся толькі старымі клішэ, як ужо друкаванымі ў папярэдніх выданьнях, гэтак і тымі, што яшчэ ніколі не друкаваліся, і былі, мабыць, знойдзены ў спадчыне ўжо памёрлага гравёра. Такім чынам, у адных і тых жа выданьнях, як напр. і ў „Осьмогласьніке“, маглі быць зьмешчаны разам гравюры з розных эпох гравёрнае дзейнасьці майстра. Калі на падставе стылістычных і тэхнічных дадзеных мы адносім „Яна Дамаскіна“ да ліку апошніх вытвораў Вашчанкі, —дык на падставе тых жа дадзеных „Нараджэньне“ можа быць вызначана, як адна з ліку значна больш раньніх, можа нават першых яго гравюрных прац.

Аб гэтым з бясспрэчнасьцю сьведчаць шмат якія тэхнічныя асаблівасьці. Пры добра задуманай композыцыі, гравюра рэзана даволі груба, контуры ня так упэўнены, як звычайна, штрыхоўка пракладзена ня чыста. У апрацоўцы твараў няма ўласьцівай для Вашчанкі дакладнасьці. Запаўненьне галоў вала і асла простымі роўналежнымі штрыхамі прадстаўляецца відавочнай абмылкай, або неспрактыкаванасьцю.

Усё жа агулам—уся конструкцыя цалкам пабудавана амаль што дасканала. Асяродкавая група Марыі з дзіцём разьмешчана надзвычайна прыгожа і скончана, хаця фігура Марыі й некалькі несуразьмерная. Пры гэтым цікавай дэтальлю зьяўляецца беларускі спосаб спавіваньня маладзенца. Ня менш прыгожа апрацаваны фігуры анёлаў. Фігуры пастухоў цікавы па характару адзежы. Фігура Язэпа ўтварае добры композыцыйны акцэнт. На самай гары, у воблаку, чатыры анёлы граюць на музычных інструмэнтах. З прарыву паміж ваблакамі ліюцца дадолу прамені ад надпісу „Слава ввышний Бгу“.

7. *Антымінс 1708 г.* [2]). Разьмер 39,5×30,5 сант. Подпіс: „Васілій Вощанка“. Надпіс: „Бжственный И осщенный Олтарь Гсда Бга и Спса Ншего Іс Хрста Благдтію все стого животворящаго Дха, Рукодѣ-

---

[1]) Гл. ніжэй.

[2]) Два экзэмпляры знаходзяцца ў Беларускім Дзяржаўным Музэі: №№ 5—719/22 і 3—719/23.

ствіем же Благвіи Бголюбивым Гсдном Оцемъ Селивестром Стополкомъ Князем Четвертенскимъ Млстію Бжіею Православным Епспом Бѣлорускимъ мстиславскимъ Оршанскимъ и Могилевским Намѣстником Митрополіи Киевской. Въ лѣто бытіа мира 7116 Отвоплощеніа же слова Бжіа 1708 Воеже нанемъ Совершати Бжсвенную Литургію".—Ісус у труне, на заднім пляне шасьціканцовы крыж. На горняй перакладзіне крыжа звычайныя літары „ІНЦІ". Каля крыжа надпіс: ІС ХС НІ КА" і прылады мук Ісуса. Навокал труны чатыры анёлы, якія ўздымаюць наложанае на труну пакрыцьцё. Адзін з іх на каленах на першым пляне.—Па кутох антымінсу орнамэнтаваныя мэдальёны з вобразамі эвангэлістаў.

У композыцыйных адносінах гравюра ня мае нічога орыгінальнага і зьяўляецца паўтарэньнем звычайнага тыпу антымінсавых композыцый, мажліва—львоўскага пахаджэньня,—які быў шырока пашыраны ў кіеўска-галіцкай эпархіі ў XVII—XVIII в. Аналёгічныя композыцыі сустракаюцца ў маляваных антымінсах. З ліку гравіраваных—можна адзначыць, па першае, адменьнік 1600 году з імём Язэпа Тувалскага, дзе бакавыя анёлы падменены фігурамі Язэпа і Нікадыма. Далей, ужо з чатырма анёламі, як у Вашчанкі,—кіеўскі антымінс 1640 году з імём Пятра Магілы і манаграмай гравера А. Т. (Аляксандр Тарасевіч ?), і антымінс 1705 году з імём арцыбіскупа Варлаама.

Па композыцыі антымінс Вашчанкі цалкам паўтарае два апошнія Але з тэхнічнага боку ён непараўнальна вышэй. Рысунак больш тонкі штрыхоўка чысьцей і выразьней, з прычыны чаго фігуры вызначаюцца надзвычайна плястычна. Асабліва дакладна апрацаваны крыж, фігура і твар Ісуса, валасы і крылы анёлаў. Зусім інакш падыходзі гравёр да трактоўкі адзежы і наагул тканіны. У той час, як у кіеўскіх антымінсах адзежа драбіцца на множства дробных і заблытаных складак, Вашчанка ўпрашчае яе конструкцыю да самай асноўнай лінейнай схэмы, з мінімальнай штрыхоўкай для адзначэньня паўтаноў. У параўнаньні з антымінсам 1640 г. ўся композыцыя антымінсу Вашчанкі апрацавана і наагул больш схэматычна, але разам з тым і больш монумэнтальна. У параўнаньні жа з антымінсам 1705 году—большая зьмернасьць ва ўжываньні чорных плям разам з выразнасьцю лінейнае конструкцыі ўтварае значна больш строгі і спакойны эфэкт. Нарэшце, можна адзначыць яшчэ некаторыя зьмены, зробленыя Вашчанкам у фігурах эвангэлістаў, а гэтаксама большую скончанасьць і компактнасьць у трактоўцы кутных мэдальёнаў.

---

Да другой групы можна аднесьці наступныя непадпісныя гравюры:

1. *Загалоўны аркуш „Акафістаў" 1698 г.* [1]). Разьмер 117,5×155 m/m. Паўтораны ў „Псалтыры" 1738 г. На постамэнце каля дзьвёх колюмнаў фігуры Ісуса (налева) і Марыі (направа). У паглыбленьні постамэнта, у мэдальёне, даволі кепскі вобраз „вадохрышча". Паміж колюмнамі ў асяродку загаловак: „Акаѳисты всеседмичныя съ Стхры и Каноны, имже прилѣны и прочія блгопотребная Мленія, Первѣе въ С: Чудо: Кіево-Печерской Лаврѣ. Нн̑ѣже въ Бгоспасаемым Градѣ Могилевѣ. Въ друк: Бра: Бговіа: Гня. Старанем и коштом Максима Вощанки. Типом изобразишася. В лѣ: от Рож: Хва 1698". Згары ў воблачным вянцы бог айцец у праменях з паднятымі рукамі, над ім голуб. Тэхніка звычайная для раньніх вытвораў Вашчанкі, але некалькі няроўная. Асаб-

---

[1]) Рас. Публ Бібл., V. 9. № 6а.

ліва добра апрацавана верхняя частка гравюры з яскравымі выразнымі штрыхамі

2. *Вадохрышча з „Акафістаў“ 1698 г.* На адвароце загалоўнага аркуша. Разьмер: 103×142,5 m/m. Паўторана ў кнігах: „Діоптра“ 1698 г. „Небо новое“ 1699 г., „Перло многоцѣнное“ 1699 г., „Книга Житій Святых“ 1702 г., „Осьмогласьнік“ 1730 і 1754 г.—Па композыцыі блізка да „вадохрышча“, зьмешчанага ў кутэінскім „Трыфолёгіоне“ 1647 г., і можа быць зьяўляецца беспасярэдным перайманьнем. Але падобна да вышэйапісанага антымінсу 1708 г. запазычаная композыцыя пераапрацавана ў больш ураўнаважанай і выразнай манеры. Праўда, разам з папярэднім аркушам, гравюра належыць, напэўна, да ліку раньніх вытвораў Вашчанкі, што сьцьверджваецца і самым фактам зьмяшчэньня яе ў выданьні 1698 году. Аднак, шматлічныя паказаныя намі перадрукі сьведчаць, што аркуш гэты лічыўся, як відаць, адным з найбольш удалых.—Па разьмяшчэньню фігур композыцыя пабудавана проста, але дасканала. У асяродку Ісус ў Іордане, над ім голуб у праменях. Налева на беразе Ян пад дрэвам, направа высокія вострыя скалы, каля якіх зьмешчаны два анёлы. Усё скомпанавана моцна й упэўнена, хаця і ня надта дакладна рэзана.

3. *Благавешчаньне з „Акафістаў“ 1698 г.* Разьмер: 50×84 m/m., у рамцы 107×150 m/m. Рамка па чорнаму фону аздоблена пышным расьлінным орнамэнтам; надолў—ваза, на гары—крылатая галоўка анёла. Рэзана рамка даволі груба, і можа быць не зьяўляецца вытворам Вашчанкі. За тое самая гравюра апрацавана вельмі упэўнена і выразна. Композыцыя традыцыйная; але надзвычайна добра пабудавана ўся горняя частка аркушу, дзе ў воблаках зьмешчаны бог айцец і голуб.

4. *Васкрасеньне с „Акафістаў“ 1698 г.* Разьмер: 53,5×93 m/m., у рамцы 107×151 m/m. Паўторана ў „Осьмогласьніках“ 1730 і 1754 гадоў. Рамка як у папярэдняй гравюры. Самае „васкрасеньне“, пры звычайнай композыцыі, цікава сваёй высокай плястычнасьцю. Асабліваe ўвагі заслугоўваюць выразныя модуляцыі цені пры дапамозе набліжэньня штрыхоў, якія часамі зьліваюцца ў чорныя пасы і плямы. Пры гэтым фігура Ісуса наагул пастаўлена вельмі ўдала. Уся гравюра цалком утварае надзвычайна дэкорацыйнае ўражаньне.

5. *Ян храсьціцель з „Акафістаў“ 1698 г.* Разьмер: 53,5×92 m/m., у рамцы 112×149 m/m. Рамка як у папярэдняй гравюры.—Налева пад дрэвам Ян, у відзе напалову агаленага юнака з крыжам, абвітым стужкай. Адзаду ўмоўна трактаваны краявід пустыні. Направа, каля ног Яна, ягня з галавой, абкружанай німбам. Тэхніка выкананьня як у папярэдняй гравюры.

6. *Усьпенье з „Акафістаў“ 1698 г.* (Аркуш 125). Разьмер: 53×94 m/m., у рамцы 107×149 m/m., як у папярэдняй гравюры. Тэхніка больш лінейная і дробная. Уся гравюра падзяляецца па горызонталі на дзьве часткі. У ніжэйшай—уласна „усьпеньне“; Марыя на ложцы, абкружаная апосталамі. Па композыцыі гэтая частка нагадвае аналёгічную гравюру з кутэінскага „Трыфолёгіона“ 1647 г., якая ў сваю чаргу, амаль што тоесама з „усьпеньнем“, зьмешчаным у кіеўскім „Анфолёгіоне“ 1619 г. У горняй частцы—„каранаваньне багародзіцы“: Марыя ў воблаку, на каленах, паміж Ісусам і богам айцом, якія ўскладаюць на яе карону. Гэтая група блізка падобна да аднэй з ікон Віцебскага Аддзяленьня Беларускага Дзяржаўнага Музэю—уласна да „каранаваньня“ невядомага паходжэньня, датаванага 1746 годам[1]),—і, магчыма, зьяў-

[1]) Віцебскае Аддзяленьне Бел. Дзярж. Музэю, II, Г. № 533.

лялася да некаторае ступені першаўзорам для гэтай апошняй кампозыцыі.

7. *Тройца і праведнікі з „Акафістаў“ 1698 г.* Разьмер: 114×144,5 m/m. Вялікі, вельмі добра скомпанаваны аркуш. Нагары—„тройца“, абкружаная зьяньнем; па бакох яе ў воблаках—Ян храсьціцель, Марыя й анёлы. Надолу—грамада праведнікаў; паасобныя фігуры з іх ліку трымаюць у руках разнастайныя рэчы: начыньні, мячы, крыжы, пальмавыя галіны і г. д. Тэхніка выкананьня—чыста лінейная, але ўпэўненасьць ліній выяўляе манеру Васіля Вашчанкі. Тып „тройцы“ падобны да адпадаведнага вобраза на загалоўным аркушы „Книги Житій Святыхъ“, і ў той жа час набліжаецца таксама і да гравюры Максіма Вашчанкі (па медзі), зьмешчанай у кнізе „Акафісты і каноны“ (Магілеў, 1693).

8. *Страшны суд з „Акафістаў“ 1698 г.* Разьмер: 119×145 m/m. Вялікая композыцыя, вытрыманая ў манеры, блізкай да папярэдняе гравюры, але з ужываньнем лёгкае штрыхоўкі, і большай плястычнасьцю форм. Аркуш падзелены па горызонталі градкаю воблакаў. Над імі на вясёлцы Ісус з паднятымі рукамі, у праменях. Большая частка фігуры абкружана вялікім белым німбам. Па бакох яго Ян і Марыя, за імі праведнікі. Беспасярэдна пад воблачнай граднай ляцяць анёлы ў разгарнутых адзежах і трубяць у доўгія трубы.

На зямлі ў правай частцы гравюры—цёмна; з воблакаў ліецца дождж; маленькія дзьябалы гоняць грэшнікаў у разьзяты зеў шатана; на пярэднім пляне рагаты, хвастаты і крылаты дзьябал зьдзекуецца над жанчынай.—У левай частцы, наадварот, ціха і ясна; анёлы вызваляюць праведнікаў ад загубы й вядуць іх, паказваючы рукамі на неба; у далі відна сьвятло і натоўп.

9. *Ісус з дзяржавай з „Акафістаў“ 1698 г.* Разьмер: 54×92 m/m., узвычайнай рамцы 109×152 m/m. На белым фоне, на невялічкім воблаку, прыгожая фігура безбародага юнака з доўгімі валасамі, дзяржаваю ў левай руцэ, і паднятай правай рукой. Самы тып фігуры зусім незвычайны, так што толькі надпіс „Іс Хс“ вытлумачвае зьмест рысунку. Тэхніка тая ж самая, як у „васкрасеньні“ (№ 4); фігура выяўлена выразна і плястычна, асабліва добра апрацаваны складкі адзежы і валасы.

10. *Тайная вячэра з „Акафістаў“ 1698 г.* Разьмер: 121,5×150. Звычайная композыцыя „вячэры“ ў закрытым памяшканьні, навокал чатырохкутнага стала. У асяродку Ісус пад балдахінам, на каленах яго маленькая фігурка соннага Яна. Іншыя апосталы разьмешчаны групамі па тры і па два. Тэхніка пераважна лінейная, з лёгкай штрыхоўкай ценявых частак у адзін тон, як у „страшным судзе“ (№ 8), або „тройцы з праведнікамі“ (№ 7). Заслугоўваюць увагі тыповыя для Вашчанкі тыпы твараў і валасы з віткамі некалькі стылізаванага характару.

11. *Ісус з крыжам з „Діоптры“ 1698 г.* Разьмер: 102,5×144 m/m. Тэхніка як у папярэдняй гравюры. У асяродку Ісус з вялікім крыжам у правай руцэ. Наўкола яго разьмешчаны грэшнікі: налева вандроўны сын, направа—Марыя Магдалена; сьпераду на каленах разбойнік і цар Давід; каля разбойніка—крыж, каля Давіда—музычны інструмэнт і карона. Згары над Ісусам голуб у праменях, абведзены воблачным вянцом.

12. *Застаўка з „Діоптры“ 1698 г.* (Аркуш 1). Разьмер: 98×26,5 m/m. У асяродку круглы мэдальён, у ім паясны вобраз Ісуса з кнігай; пра-

вая рука яго паднята для блаславеньня (так зв. „пантократар“). У абодва бакі ад мэдальёну разыходзяцца сымэтрычныя віткі расьліннага орнамэнту з кветкавымі падвяночкамі на чорным фоне.

13. *Застаўка з „Неба Новаго“ 1699 г.* (Аркуш 502). На чорным фоне тры кветкавыя падвяночкі з круглымі мэдальёнамі ўнутры. Падвяночкі злучаны паміж сабой тонкімі сьцяблами з дробнымі лісьцямі. У асяродкавым мэдальёне багародзіца ў кароне з паднятымі рукамі (у позе „оранты“). Направа—Іоакім, налева—Ганна. З тэхнычнага боку дробны рысунак зроблены высока-дасканала; штрыхоўка тонкая і дакладная.

14. *Укрыжаваньне Ісуса з „Осьмогласьніка“ 1730 г.* Разьмер: 50×83 m/m., у рамцы 113×159 m/m. Рамка складзена з густа сплеценых акантавых лісьцяў, на гары—голуб у праменях. Самая гравюра па тэхніцы набліжаецца да „Ісуса з дзяржаваю“ з „Акафістаў“ 1698 г. (№ 9), пры чым рэльеф выяўляецца тутака нават яшчэ больш пры дапамозе контрасту чыста белых і густа заштрыхаваных месцаў. У асяродку фігура Ісуса, заваленага наўзнак на крыж. На пярэднім пляне—прылады пакуты: кляўцы, абцугі, цьвякі. Два жаўнеры падзяляюць адзежы Ісуса, трэці, што знаходіцца на заднім пляне, працінае яму бок доўгім капьём. Па сюжэту, а часткова і па композыцыі ўвесь аркуш падобны да аналёгічнай гравюры Максіма Вашчанкі, зьмешчанай у кнізе „Акафісты і каноны“ 1693 г.

15. *Ісус з капьём з „Осьмогласьніка“ 1730 г.* Разьмер; 52×93 m/m., у рамцы 113×160 m/m. Рамка як у папярэдняй гравюры. Па тэхніцы і тыпу фігура нагадвае „Ісуса з дзяржавай“ (№ 9). Ісус у відзе юнака з доўгіміваласамі, у разгарнутай адзежы; галава яго ў вялікай аўрэолі праменяў. Пад нагамі яго—касьцяк і змій. Ён прастрамляе змія доўгім капьём, верхні канец якога мае выгляд чатырохканцовага крыжа.

---

Ня гледзячы на параўнальна нязначную колькасьць вядомых нам твораў Васіля Вашчанкі, пералічаныя намі дваццаць дзьве гравюры ўяўляюць даволі поўны вобраз вытворчасьці магілеўскага майстра і дазваляюць скласьці аб ім у выстарчаючай меры яскравае прадстаўленьне. Пры разглядзе паасобных аркушаў мы ўжо зьвярнулі ўвагу на некаторыя самаўласьцівыя тэхнічныя прыёмы Васіля Вашчанкі, якія сьведчаць аб значнай дасканаласьці і living рознабокасьці яго гравёрнае манеры. Абагульняючы зробленыя намі ўвагі, мы можам адзначыць цэлы шэраг цікавых и характерных рысаў, якія ўласьцівы яго вытворам, і робяць яго амаль што найлепшым гравёрам з ліку тых майстроў, што аздаблялі сваімі дрэварытамі і гравюрамі па медзі як наагул беларускія, гэтак—часткова—магілеўскія старадрукі. У гэтых адносінах Васіль Вашчанка набліжаецца толькі, быць можа, да свайго родзіча Максіма Вашчанкі, да некаторае ступені складаючы разам з ім нейкую асобную „магілеўскую гравюрную школу“[1]).

Але наўрад ці можна згадзіцца з думкай Равінскага, быццам вытворы гэтае магілеўскае школы натолькі нязначны па колькасьці і натолькі не вызначаюцца якімі-небудзь асобнымі адзнакамі ад кіеўскальвоўскіх гравюр, што разам з гэтымі апошнімі яны павінны быць аднесены да тэй жа самае школы—кіеўска-львоўскай [2]). Такі пагляд

---

[1]) Паміж іншым, трэба заўважыць, што выдатныя заслугі абодвых Вашчанак ужо былі мімаходзь адзначаны ў спэцыяльнай літаратуры. Гл. А. Некрасов: Книгопечатание в XVII—XVIII веках. „Книга в России“ М. 1924. I, 114.

[2]) Ровинский. Подробный словарь русских граверов XVI—XIX в. Т. I, стар. 22, ув. 1.

бясспрэчна, зьяўляецца памылковым, і, магчыма, тлумачыцца некатораю несвядомасьцю. Па-першае,—агульная колькасьць помнікаў магілеўскае гравюрнае школы ўжо не натолькі малая, як гэта здаецца Равінскаму. Двццаць дзьве гравюры Васіля Вашчанкі, каля пяцідзесяці вытвораў Максіма Вашчанкі, і ўрэшце працы Тодара Ангілейкі й Апанаса П.—складаюць агулам больш за сто аркушаў, што зьяўляецца даволі значнаю лічбай. Па-другое,—і самыя тэхнічныя прыёмы магілеўскіх майстроў—асабліва Вашчанак—у шмат чым моцна адрозьніваюцца ад тэхнікі кіеўска-львоўскіх гравёраў,—чаго Равінскі чамусьці не заўважыў, разглядаючы за надта павярхоўна нават тыя нешматлікія аркушы Васіля Вашчанкі, якія былі яму вядомы.

Самаўласьцівымі рысамі адзначаецца, паміж іншым, і манера Максіма Вашчанкі, композыцыі якога (гравюры на медзі) часта носяць заходні (нямецкі) характар, але мала чым зьвязаны з кіеўскімі композыцыямі ў заходнім стылю, і хутчэй знаходзяцца ў тых жа адносінах да заходня-эўропейскіх першаўзораў, у якіх стаяць да іх кіеўскія і львоўскія гравюры. Што жа тычыцца да Васіля Вашчанкі—дык тутака розьніца яшчэ больш значная, і толькі меншая композыцыйная яго самастойнасьць магла даць повад Равінскаму залічыць яго вытворы да кіеўска-львоўскае школы, з якой яны ў сутнасьці маюць мала чаго супольнага.

Залежнасьць Васіля Вашчанкі ад кіеўскае гравюрнае школы – пры гэтым выключна ў композыцыйных адносінах і наўрад ці беспасярэдняя—можа быць дакладна паказана толькі на некаторых нямногіх прыкладах. Дзьве композыцыі—„усьпеньне“ і „вадохрышча“—як мы адзначалі, набліжаюцца да адпаведных гравюр кутэінскага „Трыфолёгіона“ 1647 г., у гэтым жа апошнім яны зьяўляліся, магчыма, запазычанымі з кіеўскіх узораў. Таксама антымінс 1708 г. вытрыманы ў характэрнай кіеўска-львоўскай композыцыі, якая ў гэты час была надзвычайна пашырана. Але й наагул композыцыі Васіля Вашчанкі далека не заўсёды пабудаваны зусім орыгінальна. Мы адзначалі, напрыклад, выпадак, калі композыцыя „укрыжаваньня“ была запазычана Васілём ад другого Вашчанкі—Максіма. Таксама композыцыі „тройцы“ у Васіля набліжаюцца да некатарых вытвораў Максіма, а праз яго наагул да заходня-эўропейскіх узораў. Аднак, усе гэтыя композыцыйныя пераймальні зусім не пазбаўляюць гравюры Васіля Вашчанкі тэй характррнае самаўласьцівасьці, якая адрозьнівае іх ад кіеўска-львоўскіх гравюр, бо гэтая самаўласьцівасьць грунтуецца ня столькі на композыцыйнай самабытнасьці, колькі, галоўным чынам, на чыста тэхнічных адзнаках. Нават у тых выпадках, калі композыцыя цалком запазычана—як гэта мае месца, напрыклад, у антымінсе 1708 г.—тэхнічная апрацоўка яе зьяўляецца зусім іншаю і новаю, выяўляе некаторыя асаблівыя спосабы і прыёмы гравіраваньня, разам з зусім іншай стылістычнай афарбоўкай.

Гэта самаўласьцівасьць Вашчанкі выступае асабліва яскрава ў параўнаньні з гравюрамі кіеўскімі, пры гэтым, часткова, нават і ў структурных адносінах. Вытворы кіеўскае гравюрнае школы характарызуюцца надзвычайна дробным рысункам, з множствам дэталей і падрабязкаў. У канцы XVII—пачатку XVIII сталецьця яны набываюць чыста-заходні характар—і ў паасобных дэталях, як напрыклад у тыпах вопратак,—і ў агульных сваіх конструкцыях. Заўсёды надзвычайна важную ролю граюць у іх архітэктурныя формы, і паасобныя фігуры амаль што выключна групуюцца і компонуюцца на фоне багата распрацаваных архітэктурных плянаў. У гравюрах Васіля Вашчанкі, наадварот, галоўным асяродкам увагі зьяўляюцца пераважна фігуры;

архітэктурным дэталям адведзена вельмі мала месца, а ў шмат якіх выпадках іх нават зусім няма; пры меншай значнасьці і колькасьці падрабязкаў, кампазыцыі Вашчанкі пабудаваны непараўнальна больш упрошчана і монумэнтальна. Ва ўсіх гэтых рысах Васіль Вашчанка ня толькі ўхіляецца ад кіеўскае манеры, але і набліжаецца да агульна беларускае стылістычнае традыцыі, дзе адсутнасьць падрабязговых дэталей, упрошчанасьць конструкцый і перавага фігур над архітэктурнымі плянамі зьяўляецца характэрнаю рысаю амаль што для ўсіх помнікаў малярскіх школ XVII—XVIII вякоў.

Да гэтага далучаюцца яшчэ і чыста-тэхнічныя асаблівасьці. Лінія Вашчанкі больш акруглая, чымсі ў гравюрах кіеўскае школы, і ўся тэхніка выкананьня наагул значна больш выразная. Агульнай упрошчанасьці кампозыцый адпавядае таксама упрашчанасьць больш монумэнтальных і строгіх лінейных схэм, але кожная лінія паасобку апрацоўваецца надзвычайна ўпэўнена і дакладна, пры чым з дапамогаю нават самых простых прыёмаў гравёр дасягае высокае жыцьцёвасьці і плястычнасьці форм. Цікава, напрыклад, што Вашчанка амаль што ніколі не ўжывае перакрыжнае штрыхоўкі і толькі звычайнымі роўналежнымі штрыхамі ўтварае высока-плястычныя эфэкты. Пры гэтым, уласьцівая яму дасканаласьць і тонкасьць штрыхоў не сустракаецца нават у лепшых кіеўскіх гравёраў, як напрыклад, Ільля А., або Тодар А. Таксама заслугоўвае ўвагі і тое, што пры ўжываньні другога, даволі пашыранага прыёму, г. зн. злучэньня паасобных штрыхоў у больш менш вялікія чорныя плямы,—Васіль Вашчанка шляхам зьмернае гармонічнасьці ў разьмеркаваньні сьветлых і цёмных месцаў даводзіць яго, ў процілегласьць кіеўскай школе, да самай высокай выразнасьці. У гэтых адносінах цікава, напрыклад, параўнаць кіеўскі антымінс 1705 г. з апісаным намі вышэй антымінсам Вашчанкі 1708 г.

Ня гледзячы, аднак. на агульную ўпрошчанасьць тэхнікі, можна адзначыць надзвычайнае багацьце гравёрнае манеры Васіля Вашчанкі, разам са значнаю разнастайнасьцю ўласьцівых яму тэхнічных прыёмаў. Як відаць, у мастацкім сваім разьвіцьці магілеўскі гравёр прайшоў цэлы доўгі шлях паступовага ўскладненьня й удасканаленьня,—шлях, асноўныя этапы якога могуць быць намі лёгка высьветлены нават на падставе тых нямногіх—дваццаці дзьвёх—гравюр, што засталіся нам у спадчыну ад яго вытворчасьці. Першыя з гэтых этапаў адбіліся ў непадпісных гравюрах, якія зьяўляліся, магчыма, самымі раньнімі спробамі Вашчанкі ў галіне гравёрнага майстэрства—спробамі, мала яшчэ дасканалымі, якія ён сам, напэўна, лічыў мала значнымі і дзеля гэтага пакінуў без подпісу, што сустракаецца нязьменна ў больш позных і больш удалых яго вытворах. Аднак і ў гэтых першых сваіх працах Вашчанка ўжо ўтварае ўражаньне надзвычайна здольнага і моцнага гравёра. Спачатку мы знаходзім у яго некалькі грубы, але выразны штрых: так, напрыклад, зроблена „вадохрышча“ з „Акафістаў“ 1698 г. Пазьней паасобныя лініі, захоўваючы сваю выразнасьць, спрацоўваюцца значна больш уважліва і дакладна, пры чым гравёр яшчэ стала прытрымліваецца амаль што чыста-лінейнае манеры; у гэтай манеры вытрымана цэлая група непадпісных гравюр, да якой могуць быць аднесены: „усьпеньне“, „тройца з праведнікамі“, „страшны суд“ і „тайная вячэра“ с тых жа „Акафістаў“, а таксама „Ісус з крыжам“ з „Діоптры“ 1698 г.

У далейшым лінейная манера паступова пераходзіць у плястычную. Лініі набываюць асаблівую тонкасьць і чыстату, пры чым усё больш і больш да іх далучаецца дробная і надзвычайна дакладная штрыхоўка.

Гэтым прыёмам апрацаваны найлепшыя вытворы Вашчанкі: загалоўныя аркушы „Акафістаў“, „Неба Новаго“, „Перла многоцѣннаго“ і „Книги Житій Святыхъ“, а таксама антымінс 1708 г. Часамі тутака ўжо намячаецца пераход паасобных штрыхоў у плямы. У іншых выпадках, як мы ўжо адзначалі, ужываецца характэрны прыём патоўшчваньня асноўных ліній у ценявых частках з распрацоўкаю паўтаноў пры дапамозе простастаўнае да гэтых ліній тонкае і дробнае штрыхоўкі. Найбольшае дасканаласьці ва ўжываньні гэтага апошняга прыёму Вашчанка дасягае ў загалоўным аркушы „Діоптры“.

Нарэшце, у далейшым сваім разьвіцьці майстар асабліва яскрава выяўляе плястычныя эфэкты паасобных плям, будуе свае композыцыі амаль што выключна на рэзкіх контрастах сьвятла і цені. Гэта манера, як відаць, найбольш позная, хоць мы і сустракаем яе ў цэлым шэрагу гравюр, зьмешчаных у розных выданьнях. Найлепшымі прыкладамі зьяўляюцца тутака: „васкрасеньне“, „Ян храсьціцель“ і „Ісус з дзяржавай“ з „Акафістаў“ 1698 г.,—далей—„укрыжаваньне“, „Ісус з капьём“ і „Ян Дамаскін“ з „Осьмогласьніка“ 1730 г.

Такім чынам з агульнае масы твораў Вашчанкі мы можам выдзеліць чатыры групы гравюр, вытрыманыя ў чатырох паасобных гравёрных манерах; у творчасьці магілеўскага майстра гэтыя апошнія, як відаць, паступова падмянялі адна адну, што сьведчыць аб нейкім законамерным разьвіцьці і органічным росьце яго мастацкай індывідуальнасьці. Разам з тым, аднак, наглядаюцца і некаторыя больш менш сталыя рысы, ўласьцівыя ўсім яго творам наогул, незалежна ад асablівасьцей тэй ці іншае гравёрнае манеры. Гэтымі рысамі зьяўляюцца: нязьменная ўпэўненасьць разца, выразнасьць характарыстыкі, асаблівая прыгожасьць форм, разам з дакладнасьцю трактоўкі твараў. Ва ўсіх гэтых адносінах Васіль Вашчанка таксама перавышае шмат якіх іншых ня толькі беларускіх, але і кіеўска-львоўскіх майстроў,—з ліку жа беларускіх монограмістаў і анонімаў рэзка высоўваецца на першы плян, у якасьці нейкай буйнай і значнай мастацкае велічыні. На жаль, адсутнасьць хоць якіх-небудзь вестак аб яго жыцьці і мастацкай дзейнасьці—не дазваляе высьветліць ва ўсіх падрабязках характар і формы практычнае сувязі яго як са сваёй магілеўскай, гэтаксама і з іншымі беларускімі і замежнымі гравюрнымі школамі. Невядомы ні год яго нараджэньня, ні год сьмерці; невядома, дзе атрымаў ён сваю мастацкую адукацыю, пад уплывам якіх узораў і прыкладаў разьвівалася яго гравёрная манера. Невядома нічога, апрача імя, падпісанага на некалькіх лепшых магілеўскіх аркушах. Але бясспрэчна, што гэта імя павінна заняць пачэснае месца ў гісторыі беларускага мастацтва, як імя аднаго з найлепшых майстроў у магілеўскай гравюрнай школе, і наагул у беларускай гравюры XVII—XVIII вякоў.

---

## КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА:

1. „Акафисты всеседмичныя“. Магілеў 1698. Выданьне Брацкае друкарні за кошт Максіма Вашчанкі. (Расійская Публічная Бібліотэка, V. 9. № 6а).

2. „Діоптра“. Магілеў 1698. У друк. М. Вашчанкі. (Рас. Публ. Бібл., V. 9. № 5а).

3. „Небо Новое“. Магілеў 1699. У друк. М. Вашчанкі. (Рас. Публ. Бібл., V. 9. № 10в).

4. „Перло многоцѣнное“. Магілеў 1699. У друк. М. Вашчанкі. (Рас. Публ. Бібл., V. 9. № 12а).

5. „Книга Житій Святыхъ“. Магілеў 1702. Выданьне Брацкае друкарні за кошт М. Вашчанкі. (Рас. Публ. Бібл. VI. 2. № 6а).

6. „Осмогласникъ“. Магілеў 1730. Выд. Брацкае друкарні. (Рас. Публ. Бібл. VII. 7. № 20а).

7. „Осмогласникъ“. Магілеў 1754. Выд. Брацкае друкарні.

8. Разбор рукописного сочинения Г. Ровинского „Русские граверы и их произведения с 1564 года до основания Академии Художеств“, составленный В. В. Стасовым.—„Отчет о седьмом присуждении наград графа Уварова“. СПБ. 1864. стар. 48—49.

9. *Д. Ровинский.* Русские граверы и их произведения с 1564 года до основания Академии Художеств. М. 1870. Стар. 168—169.

10. *Д. Ровинский.* Подробный словарь русских граверов XVI—XIX в. СПБ. 1895. Т. I. Стар. 39—40 (прадмовы), 179 (слоўніку).

11. *А. И. Некрасов.* Книгопечатание в XVII—XVIII веках. „Книга в России“. М. 1924. Стар. 114.

---

## Wassil Woschtschanka.

*Wassil Woschtschanka*—das ist der Name *eines Holzschneiders*, dessen Unterschrift wir auf einigen Holzschnitten der *alten Mohilewschen* Ausgaben 1698—1730 finden. Dieser Name, erwähnt in der speciellen Literatur, z. B. bei Rowinski in seinem Buche „Русские граверы с 1569 г. до основания Академии Художеств“ und auch in „Словарь русских граверов“, erregte aber keine besondere Aufmerksamkeit, weil die Anzahl seiner Werke, die den Forschern bekannt wären, zu gering war. Rowinski ist sogar zu ganz unrichtigen Schluss meinung gekommen, dass die Mohilewschen Grawüren im ganzen der Kijew—Lembergschen Schule gehören. In der Tat, kann die Anzahl der Holzschnitte v. W. W., auf der Grundlage der stylistischen und technischen Ausgangspünkte, in Betreff einer ganzen Reihe ununtergeschriebenen Holzschnitte, bis 22 vermohrt werden. Diese Werke sammt den Kupferstiche seines etwas mehr bekannten Verwandten, Druckers und Herausgebers Maxim Woschtschanka, bilden, augenscheinlich, eine besondere Mohilewsche Gravürschule, welche einen bedeutsamen Platz in der Weissruthenischen Gravürkunst einnimmt. Mit der Kijew-Lembergschen Schule steht sie in Verbindung im Bezug auf die Komposition, in technischer aber und Stylistischer Hinsicht sind sie recht verschieden. Im Einzelnen, kann man in den Holzschnitten v. W. W, einen grösseren Schematismus und Monumentatität anmerken, ohne überflüssige Details der Komposition. Was die Technik betrifft, so ist in den Werken v. W. W. Sorgfältigkeit des Striches sammt einer Fülle technischer Eigenthümlichkeiten von reiner Linealmanier bis zu plastischer Figurendarstellung durch Schaffirung oder schwarze und weisse Flecken.




Загалоўны аркуш „Осьмогласьніка 1754 г., апаўтораны з „Діоптры“ 1698 г.



Загалоўны аркуш „Неба Новаго“ 1699 г.



Загалоўны аркуш „Перла Многоцѣннаго“ 1699 г.




Загалоўны аркуш „Книги Житій Святых“ 1702 г.



Ян Дамаскін з „Осьмогласьніка“ 1730 г.



Нараджэньне з „Осьмогласьніка“ 1730 г.




Антымінс 1708 г.



Вадохрышча з „Акафістаў“ 1698 г.



Благавешчаньне з „Акафістаў“ 1698 г.



Васкрасеньне з „Акафістаў“ 1698 г.



Ян храсьціцель з „Акафістаў“ 1698 г.



Усьпеньне з „Акафістаў“ 1698 г.



Тройца і праведнікі з „Акафістаў“ 1698 г.



Страшны суд з „Акафістаў“ 1698 г.




Ісус з Дяржавай з „Акафістаў“ 1698 г.



Тайная вячэра з „Акафістаў“ 1698 г.



Ісус з крыжам з „Діоптры“ 1698 г.



Застаўка з „Діоптры“ 1698 г.



Застаўка з „Неба Новаго“ 1699 г.



Укрыжаваньне Ісуса з „Осьмогласьніка“ 1730 г.



Ісус з капьём з „Осьмогласьніка“ 1730 г.